# Будаваць — не бедаваць...




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.






Малюнкі Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

**Міхаіл УЛАСЕНКА**

## ЗБІТЫЯ ІСЦІНЫ

**Куранят па восені лічыць той, хто ўсё лета лавіў варон.**

Дурню не абавязкова рабіць глупствы. Дастаткова пра іх гаварыць.



**Шматгадовыя доследы дацэнта Пятрова могуць даць буйны эканамічны эфект, калі не спяшацца з іх укараненнем.**

Калі аўтобус не ходзіць, то пасажыры бегаюць.



**Каханне — гэта палёт у аблоках. Таму ўвесь час цягне на зямлю, каб пасесці і выспацца.**

«Паглядзім, хто з нас сапраўдны», — падумаў бюракрат, ідучы на прыём да калегі.



**Меў залаты характар дзякуючы жалезнай вытрымцы.**

Досвед вымяраецца не толькі колькасцю перамог, але і наяўнасцю фінгалаў.

*г. Горкі.*




Малюнак Алега ПАПОВА.

**Міхась СЛІВА**




Больш за два тыдні наша фірма працавала з вялікім напружаннем, на мяжы фізічных сіл. Супрацоўнікі ўсіх аддзелаў і сектараў, акрамя сваіх службовых абавязкаў, выконвалі надзвычай важнае заданне шэфа. Нават яго каханка, рэферэнт Альбіна Арцёмаўна, якая заўсёды раней за ўсіх імчала дамоў на абед ці ў канцы рабочага дня па магазінах, сядзела на месцы дапазна. Адпраўлялі запыты ў розныя міністэрствы і ведамствы, у архівы, а двух супрацоўнікаў шэф нават накіраваў у камандзіроўкі. Усе шукалі нейкую даведку...

— Кіньце вы гэтыя турботы! — сказаў аднойчы схуднеламу шэфу яго добры таварыш-кампаньён. — Далася вам гэтая даведка! Няма — ну і няма.

— Што вы! — усклікнуў шэф. — Гэтая ж даведка патрэбна самому Галышову!

— Ну, тады ўсё зразумела... — са спачуваннем паглядзеў на шэфа кампаньён.

Івана Самсонавіча Галышова ведалі ўсе. Амаль у кожнай арганізацыі горада ён спісаў сваімі скаргамі па два тоўстыя сшыткі. І на ўсе скаргі патрабаваў своечасовага і канкрэтнага рэагавання. Іван Самсонавіч нідзе не працаваў, таму хапала часу, каб і ў справу ўнікнуць, і юрыдычна падкавацца. Здароўе папсаваў многім. Усюды бачыў адны недахопы і часта з мухі рабіў слана.

Івану Самсонавічу была справа да ўсіх. Таму шэф нашай фірмы, да якога Галышоў яшчэ не чапляўся, вырашыў у блін разбіцца, але выканаць яго запыт. І неўзабаве патрэбную даведку знайшлі.

Шэф сам пазваніў Івану Самсонавічу, ветліва запрасіў у кабінет і, радасна ўсміхаючыся, уручыў Галышову даведку. Той хуценька ўзяў яе, прабег вачыма і адзначыў:

— Дзякуй! Вы мне вельмі дапамаглі: якраз гэтай даведкі мне і не хапала, каб адправіць на вас скаргу ў міністэрства...

*г. Рагачоў.*




Усе мы бачым сны. У большасці выпадкаў яны з'яўляюцца ў нашай начной падсвядомасці ў выглядзе фрагментаў, якія цяжка аб'яднаць у нешта адзінае, лагічнае і паслядоўнае. Але ёсць людзі, якім прырода падаравала магчымасць бачыць цікавыя, сюжэтныя сны, а некаторым — нават прарочыя.

Асабіста я бачу дзіўныя сны, чымсьці падобныя да фільмаў. Тут і дэтэктывы, і фантастыка, і гісторыя, і нават меладрамы, але часцей за ўсё гэта сны ў жанры арт-хаўс. Менавіта з-за іх я люблю спаць. За адну ноч можна паглядзець некалькі займальных «кінафільмаў». І, што істотна, бясплатна! Не кожны можа пахваліцца такім асабістым «кінатэатрам».

Нядаўна я начыталася нанач разнастайных навін. Даведалася шмат чаго новага і, раздумваючы аб прачытаным, заснула.

... — Устаць! Суд ідзе! — пачуўся гучны голас суддзі, апранутага ў доўгую мантыю і белы парык.

Я падхапілася і ўбачыла, што сяджу на першай лаўцы ў судовай зале як звычайны глядач. Наўкол процьма людзей, усе пра нешта шэптам перагаворваюцца. У куточку залы сядзяць некалькі абвінавачаных. Панурыўшы галовы, яны з-пад ілба паглядаюць у залу. Бачна, што ім вельмі сорамна і няёмка.

— Прашу сядаць, — сказаў суддзя. — Сёння мы заслухаем справы некаторых беларускіх карупцыянераў. І, спадзяюся, дасканала разбяромся ва ўсіх аспектах і вынесем справядлівы вердыкт. Уступнае слова прадастаўляецца сакратару судовага пасяджэння.

— Дазвольце пачаць са статыстычных дадзеных. У 2013 годзе з-за хабару ў Беларусі штомесяц распачыналася больш за 130 крымінальных спраў, — прамовіла прыгожая прадстаўнічая жанчына. — Паводле звестак Генпракуратуры, летась расследаваліся карупцыйныя злачынствы ў дачыненні да гендырэктара і начальніка аддзела Мінскага мясакамбіната, дырэктара «Племптушкапрадуктар «Праўда», дырэктара філіяла «Вілейкарайгаз» «Мінаблгаза», кіраўніка Навасвержанскага лесазавода, кіраўніка холдынга «Магілёўвадбуд», дырэктара і начальніка ўчастка Уздзенскага лясгаса, начальніка аддзела вытворча-тэхналагічнай камплектацыі ААТ «Салігорскі домабудаўнічы камбінат», былога дырэктара Гомельскага райаграсэрвіса, намесніка кіраўніка адміністрацыі і начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Цэнтральнага раёна г. Мінска, першых намеснікаў старшыняў Гарадоцкага і Івацэвіцкага райвыканкамаў, намеснікаў старшыняў Барысаўскага райвыканкама і Жодзінскага гарвыканкама і іншых.

У зале пачуўся гул незадаволенасці, які рэхам адбіваўся ад сцен і не сціхаў да таго часу, пакуль суддзя не пастукаў малатком па стале:

— Калі ласка, працягвайце.

— Сёння мы заслухаем справы толькі асобных карупцыянераў. Гэта справа «Белкаапсаюза», справа Магамеда Умарава і справа ў Мінюсце. Слова прадастаўляецца абвінавачванню, — скончыла сваё выступленне сакратар судовага пасяджэння.

— Дазвольце, я пачну са справы «Белкаапсаюза». У ліпені 2013 года была выяўлена і спынена супрацьпраўная дзейнасць групы асоб, сярод якіх былі кіраўнікі, супрацоўнікі гэтай арганізацыі, прадстаўнікі камерцыйных структур. Яны займаліся вымагальніцтвам грашовых сродкаў за права выканання на аб'ектах спажыўкааперацыі пэўных работ, за продаж інвестарам зямельных участкаў і аб'ектаў нерухомасці. Памеры хабару дасягалі пяцісот тысяч долараў. У выніку па гэтых фактах было заведзена пяць крымінальных спраў. У іх фігуруюць наступныя імёны: старшыня «Белкаапсаюза» Сяргей Сідзько, начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва Дзмітрый Калодзезны, яго намеснік Элеанора Сізук, а таксама прадстаўнікі камерцыйных структур, — прамовіў абвінаваўца і паглядзеў у залу.

За маёй спіной пачулася гнеўнае абурэнне гледачоў. Суддзя зноў пастукаў малатком па стале.

— Дазвольце, я прадоўжу, — прамовіў абвінаваўца. — Наступная справа, на якую я звярну ўвагу, датычыць намесніка старшыні суда Кастрычніцкага раёна г. Магілёва Магамеда Умарава. Ён «папаўся» на хабары ў памеры 2700 долараў. Заадно з ім па справе «праходзіць» адвакат юрыдычнай кансультацыі Кастрычніцкага раёна г. Магілёва Анатоль Гоманаў, які ўласна і даў гэтае «грашовае заахвочванне». Служыцеляў Феміды злавілі з доказамі злачынства.

— А што вы можаце сказаць па справе, якая адбылася ў Мінюсце? — спытаў суддзя.

— Справа датычыць начальніка ўпраўлення Міністэрства юстыцыі Галіны Грышкавец і яе намесніка Наталлі Беразоўскай. Іх злавілі на атрыманні хабару ў памеры тысячы

доларaў. Але папярэдняе расследаванне паказала, што грашовыя «падарункі» гэтыя службовыя асобы бралі неаднаразова. Узбуджана крымінальная справа. Здаецца, у мяне пакуль усё, таварыш суддзя.

– Дзякуй. Слова перадаецца прадстаўніку абароны.

– Паважаны таварыш суддзя, дазвольце выклікаць першага сведку, – прамовіў абаронца.

– Дазваляю, – кіўнуў суддзя.

– Суд выклікае Наталлю Кульгавую. Наталля, падыміцеся...

– Падымайся! – крануў мяне нехта за плячо.

– Я нікуды не пайду, я ж нічога не ведаю, – прамямліла я.

– Затое я ведаю, што ты зараз спознішся на працу, – прагучаў на ўсю залу голас маёй сяброўкі.

... – Навошта ты мяне разбудзіла? – зазлавалася я. – Яшчэ крышачку – і стала б вядома, чым закончацца гэтыя справы карупцыянераў. А зараз давядзецца чакаць «сапраўдных» судоў.

– Не перажывай, – супакоіла мяне сяброўка. – Усе крымінальныя справы расследуюць, вінаватых пакараюць, ды так, што табе і не снілася...

**Сон бачыла Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




**Дарагі дружа Вожык!**

Пішу табе ўпершыню, хоць даўно з'яўляюся тваёй прыхільніцай. Нядаўна я стала сведкай адной сітуацыі, якая датычыць адказнасці ўдзельнікаў дарожнага руху за сваё жыццё і бяспеку іншых людзей.

Дык вось уяві сабе, мой калючы сябар. Стаю каля пешаходнага перахода на адной з гродзенскіх вуліц і раптам бачу: машына, што ехала на прыстойнай хуткасці, ледзьве паспела затармазіць перад дзвюма жанчынамі, якія літаральна выскачылі на «зебру». Небяспечная сітуацыя, вядома, і нікому гонару не робіць. Але ж як павялі сябе тыя, што ледзь не сталі пацярпелымі! Замест таго, каб хуценька перайсці дарогу, адна з жанчын спынілася і пачала на чым свет стаіць клясці і вадзіцеля, і яго сям'ю да сёмага калена, і ўвогуле ўсіх тых, што «панакуплялі правоў і катаюцца»... Пакуль яна вылівала сваю злосць, за мужчынам-бедалагам утварылася пробка, дарожны рух затрымаўся, машыны сталі сігналіць... Нарэшце сяброўка той кабеты пацягнула сваю языкастую таварышку за рукаў, і яны перайшлі ўрэшце вуліцу. Аднак і на тратуары жанчына яшчэ доўга выказвала сваё абурэнне выпадковым прахожым.

Добра, што ўсё абышлося без траўматызму, а магло ж быць і значна горш. І не толькі з-за няўважлівасці вадзіцеля, але і з-за безадказных паводзін пешаходаў. Сёння да тых, хто парушае за рулём правілы дарожнага руху, прымяняюцца розныя меры пакарання. Але часта, мне здаецца, штрафаваць трэба менавіта пешаходаў, як, напрыклад, у гэтым выпадку... А як ты думаеш, братка Вожык?

*P. S.* Я сама не вадзіцель, так што не падумай, што маё меркаванне не аб'ектыўнае.

**Анастасія ФЁДАРАВА,**
*г. Гродна.*






Вось такую аптэку ўбачыў я на праспекце Незалежнасці, 58. І сумна падумаў, што праўдзівыя літары гараць на шыльдзе. Бо калі ўзгадаеш, якімі балючымі бываюць уколы, іншыя медыцынскія працэдуры, калі паглядзіш на цэны на асобныя лякарствы, то становіцца сапраўды балюча і хварэць не хочацца яшчэ больш. Будзьце здаровымі!..

**Кірыл ШНУР,**
*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.

**Міхась САЗОНЧЫК**




Рыбак не думаў пра бяду,
Ды праваліўся пад ваду.
Чаго палез на тонкі лёд?
Эх, гінуць людзі так штогод...

Ой, рыбакі вы, рыбакі!..
Чаму такія дзівакі?
Няўжо улоў той даражэй
За жонку, цешчу і дзяцей?..

*Нясвіжскі раён,*
*г. п. Гарадзея.*

**Барыс КАВАЛЕРЧЫК**




Кажуць, што старасць — не радасць. Але гэта можна аспрэчыць. У кожнага чалавека свая старасць, свая радасць і свая другая маладосць.

Калі ідзе стары, згорблены чалавек, ледзь цягаючы ногі — вядома, якая тут можа быць радасць? А калі сустракаеш пажылога, рухавага мацака, які праводзіць цікаўным позіркам амаль кожную прыгожую жанчыну? Ці бачыш дзядулю, які шпарка бегае па алеях парку, ды яшчэ ў непагоду? За іх можна толькі парадавацца. Ці ж гэта не маладосць? Можа, яна, канешне, і не першая, ну, тады другая.

Асобныя жанчыны зноў пачынаюць квітнець, калі знаходзяць у старасці новага спадарожніка жыцця. А ў некаторых мужчын другая маладосць пачынаецца, калі яны мяняюць трэцюю жонку.

Возьмем грамадскі транспарт. Пажылыя людзі лоўка і ўвішна трапляюць у перапоўнены тралейбус ці аўтобус. І пры гэтым у спрыце не ўступаюць маладым. Але даводзіцца часта бачыць і іншае. Сядзіць на месцы, якое прызначана для бацькоў з дзецьмі і інвалідаў, чырванашчокі дзяцюк ці дзяўчына, а побач стаіць бабулька з палачкай. Стаіць, стаіць... Між тым, па ўзросце да гэтай бабулькі магла ўжо прыйсці не толькі другая, але і трэцяя маладосць. Аднак прыйшла толькі старасць.

На жаль, другая маладосць бывае не ва ўсіх, і да сябе ў госці яе не паклічаш, як бы ні хацелася. А вось старасць прыйдзе да кожнага. Памятайце пра гэта і — радуйцеся жыццю!



*г. Гомель.*




**— Ну, за кругласутачнае свята!**

Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# ІГОЛКАТЭРАПІЯ

## Жывёльныя якасці

***Гродна.*** Людзі заўжды марылі мець у «арсенале» сваіх чалавечых якасцяў яшчэ і некалькі жывёльных «талентаў». Ім падабаецца і лісіная хітрасць, і мядзведжая моц, і заечая хуткасць. Адным гэта даруецца прыродай, іншыя трэніруюць такія навыкі ўсё жыццё. Але ёсць некаторыя людзі, якія лічаць, што пэўныя асаблівасці можна атрымаць, набыўшы звычайнае футра.

Гэты факт вырашыў выкарыстаць мясцовы прадпрымальнік, які гандлюе на рынку «Паўднёвы», і прывёз з Расіі дарагія футры на суму больш чым 236 мільёнаў рублёў. Праўда, пра адпаведныя дакументы на іх «забыўся»: відаць, спрацавала курыная памяць.

У выніку ўвесь тавар забралі, вядзецца следства. А правапарушальнік думае, якая жывёльная якасць яму спатрэбіцца ў такой сітуацыі.

## Чырвоная ікра і чорныя дні

***Мінск.*** «Ды ён чырвоную ікру лыжкамі есць!» Здаўна так казалі пра людзей, у якіх грошай без ліку. Але цяпер у сталічных аматараў гэтага нятаннага прадукту, верагодна, узнікнуць цяжкасці. А ўсё з-за таго, што падчас праверкі на адным з рынкаў было канфіскавана 15,6 кілаграма кантрабанднай ікры на агульную суму каля 25 мільёнаў рублёў.

Для вінаўніка могуць наступіць чорныя дні: яму пагражае штраф у памеры да пяцідзесяці мільёнаў рублёў. Аматарам жа чырвонай ікры давядзецца шукаць іншыя, больш «законныя» месцы продажу гэтага далікатэсу.

## І рыба, і мяса…

***Маладзечанскі раён.*** Кантралёры ловяць «зайцоў» — гэта ведаюць усе. А вось пра тое, што фінансавым міліцыянерам здараецца лавіць птушак і рыб, здагадваюцца нямногія.

Не задумваўся аб гэтым і адзін індывідуальны прадпрымальнік. У сваім аўтамабілі без належных дакументаў ён перавозіў прыблізна паўтары тоны замарожанага мяса птушкі, рыбы і іншых прадуктаў. Агульная сума затрыманага «ўлову і здабычы» склала больш за 31 мільён рублёў.

Цяпер парушальніку «свеціць» штраф. Верагодна, пасля гэтага ён кіне лавіць рыбу ў каламутнай вадзе і будзе мець пры сабе неабходныя накладныя. Усё ж стрэляная птушка.

***Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.***

# Віншуем!

***Расціслаў Мацвеевіч БЕНЗЯРУК (1944) — вядомы дзіцячы паэт. Але даўно сябруе пісьменнік і з «Вожыкам». На старонках часопіса друкаваліся яго байкі, пароды, эпіграмы… Выйшла кніга гумару «Азбука наадварот».***

***Рэдакцыя «Вожыка» шчыра віншуе Расціслава Мацвеевіча з 70-годдзем, зычыць яму доўгіх гадоў жыцця, поспехаў ва ўсіх справах і творчага плёну.***



**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

## Былі пра Бенядзікта



### Бенядзікт на троне

У майго суседа рэдкае, несучаснае імя — Бенядзікт. Так звалі дзеда, а ўсе астатнія клічуць яго Бянедзікам. І нездарма: невысокі, хударлявы, востры на язык. Часам, падпіўшы, ён жаліцца:

— Жыў бы ў якой-небудзь Швецыі ці Германіі — з такім імем каралём выбралі б, Бенядзіктам Другім звалі б, а так — Бянедзік-трактарыст!

Калі ж недасведчаны суразмоўца пачынае спачуваць, Бянедзік рэзка перапыняе яго:

— Што ты плешчаш?! Трактарыст у вёсцы — гэта ого-го! Усе да яго хіляцца, нават чарку са скваркай прапануюць, бо кожнаму трэба соткі абрабіць. А коней даўно няма. Не, я паважаны чалавек, улетку мяне нават на трон садзяць!

—Як гэта — на трон? — не разумее суразмоўца.

— Вельмі проста: на трон — і ўсё! — усміхнецца Бянедзік. — Я ж не проста трактарыст, а механізатар шырокага профілю. Як пачне спец збажына, прапануюць на камбайн перасесці. А камбайн — гэта знаеш якая вышыня?.. Зверху сяджу, на цябе, як з трона, гляджу!..

Вось такі мой сусед.

### Пра жанчын

Вы чулі, пра што талкуюць мужчыны ў кафэ за куфлем піва ці за шклянкай гарэлкі? Правільна, пра паляванне, рыбалку, ну, ці пра жанчын. Бянедзік і яго сват Мікола ніколі заядлымі рыбакамі ці паляўнічымі не былі, а таму гаварылі пра жанчын. Пра сваіх жонак.

— Мая Маланння, — расказваў Бянедзік, — гэта маланка, якая пастаянна б'е ў адну кропку...

— Дык нават снарад двойчы ў адну варонку не трапляе, — не паверыў Мікола.

— Снарад, можа, і не трапляе, а мая «маланка» кожны дзень і кожную хвіліну мне ў мазгаўню стукае!..

— А мая жонка раней звалася Поля, а цяпер Паліна, — сказаў Мікола.

— Дык гэта ж адно і тое! — не ўцярпеў Бянедзік.



— Адно, ды не тое ж. Раней яе часта бачылі ў полі, там яна поле ды поле градкі. Вось і Поля. А зараз — паліняла. Значыць, Паліна...

— Як гэта паліняла? — не зразумеў сват.

— А як звяры ліняюць? Зімой зайцы белыя, а ўлетку — шэрыя. Мая ж Паліна, наадварот, усё з чорнымі валасамі хадзіла, а зараз... пасівела. Я ёй кажу: «Можа, вясною зноў, як зайцы, пацямнееш?» А яна: «Не хачу быць на зайчыху падобнай!»

— Дык да нас чорная прыехала. Ці, можа, не твая? А, сват? — хітравата засмяяўся Бянедзік.

— Мая. Нядаўна пафарбавала валасы. На тое яны і бабы, каб маляваціца! — адказаў Мікола. — Хімія, як кажуць, памагла.

— Вялікая сіла тая хімія! — падтакнуў Бянедзік. — З любой ведзьмы прыгажуню зробіць!

Мікола раптам насцярожыўся:

— Ты пра каго гэта, Бенядзікт Тарасавіч? Пра маю жонку?

— Крый божа, Мікола Андрэевіч! — супакоіў яго Бянедзік. — Я ўвогуле пра жанчын. Але не пра нашых.

Паміж сватамі зноў усталяваліся мір ды згода.

*г. Жабінка.*

# Алег Гуцол 5:0





*Алегу ГУЦОЛУ — карыкатурысту, вядомаму ва ўсім свеце, споўнілася 50 гадоў. Ён сапраўдны пераможца па жыцці, бадзёры і працалюбівы. Удзельнік многіх сусветных конкурсаў карыкатуры. Колькасці яго ўзнагарод і прызавых месцаў могуць толькі пазайздросціць спартсмены і Украіны, і Беларусі. (Алег Уладзіміравіч нарадзіўся і вырас ва Украіне, сямейнае шчасце знайшоў на беларускай зямлі: у яго падрастаюць два маленькія сыны.)*

*Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык» віншуюць свайго таленавітага чэмпіёна-мастака з перамогай 5:0, жадаюць моцнага здароўя, творчага натхнення і перамогі з лікам 10:0!*











Малюнак Данілы КАЛАДЗІНСКАГА.
*«Вожык», № 11, 1987 г.*




– Чаму ты толькі палову красворда рашыў?
– Дык я ж у вас працую на паўстаўкі.

Малюнак Уладзіміра БАРАНОЎСКАГА. *«Вожык», № 23, 1987 г.*

**Васіль МАЕЎСКІ**




*Асобныя раённыя кіраўнікі, прыкрываючыся тэрмінам «неперспектыўныя», не ўдзяляюць належнай увагі вёскам, якія размешчаны далёка ад калгасных цэнтраў і немаведама калі павінны падлягаць ссяленню.*

*(З пісьмаў у рэдакцыю).*

У нейкім горадзе,
у нейкім кабінеце
вучоны нейкі
даказаў адзінае:



«Даводжу я,
што ў кожным сельсавеце
ёсць вёска-вёсачка
неперспектыўная...»
Што ёсць яшчэ
ў нас вёсачкі такія –
вяскоўцы розумам
даўно дапялі ўласным,
і разважаюць:
«Праз гады якія
і мы у цэнтрах
будзем жыць калгасных...»
Адзін жа
абібочысты начальнік
(і бюракрат,
між іншым, адмысловы)
«неперспектыўныя»
зрабіў наймодным словам,
яго ўжываючы,
як шчыт-выратавальнік.
Яму – вяскоўцы:
«Дзе балоны з газам?
Аўтамаршрут?
Тавары магазінныя?»
А ён сячэ
на ўсе пытанні разам:
«Дык вёска ж вашая –
неперспектыўная!..»
Ці вуліца
раз'езджана дашчэнту,
ці у сяле
гады ў рады канцэрты –
усё неперспектыўнасцю
тлумачыцца
і гэтак жа бюракратычна
справаздачыцца.
Даволі паўтараць
«неперспектыўная»
на сходах
і ў службовых кабінетах!
Працуюць людзі –
робяць цуды дзіўныя
у вёсках-вёсачках –
ім слава ўсім за гэта!
Яны ўсе перспектывы
вёскі набліжаюць
і, вартыя ўвагі,
паўтараюць:
«Хто прыкрываецца
«неперспектыўнасцю»,
браткі?
Неперспектыўныя
кіраўнікі!»




*«Вожык», № 10, 1980 г.*




*Чалавецтва ўступіла ў такую высокую фазу развіцця, што пра яго будучыню гавораць з упэўненасцю толькі астролагі.*

Невядомы аўтар









Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.







Малюнкі Руслана БОГУША.

## ТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК



САМАКАТ – мазахіст.

КАМЕРУН – арыштант.

МАНІПУЛЯТАР – банкамат.

БЫЧАТНІК – попельніца.

КУРКУМА – ліса.

КУРЭЦ – работнік птушніка.

ГУМАНІСТ – аматар жавальнай гумкі.

БАЛОНКА – аўтамабіль, што запраўляецца балонным газам.

**Анатоль ПАЛЫНСКІ,**
*г. Беразіно.*

# Толькі для мужчын




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Ажаніцца — не журыцца

*(З дзённіка маладога мужчыны)*

...Раніцай устаў, пагаліўся, памыўся, заварыў сабе чаю, зрабіў бутэрброды. На рабоце дзень прайшоў хутка і весела, паабедалі з калегамі ў фірменнай сталоўцы. Вяртаючыся дадому, зайшоў у гастраном, купіў сёе-тое на вячэру. Занёс у пральню бялізну. Глядзеў крыху тэлевізар, а потым засеў за камп'ютар. Пазваніла маці. Вельмі непакоіцца, як цяжка мне жыць аднаму, нежанатаму. Усё даводзіцца рабіць самому. І, можа, у соты раз параіла хутчэй ажаніцца.

* * *

...Уступіў настойлівым і патрабавальным просьбам маці — ажаніўся. Для родных і блізкіх радасць: ёсць у мяне надзейны «тыл», не буду, як раней, адзін гараваць.

* * *

...Раніцай, пакуль галіўся і мыўся, закіпела вада ў чайніку. Прыгатаваў каву і бутэрброды на дваіх з жонкай. Па дарозе на работу выкінуў у кантэйнер пакет смецця: учора па просьбе жонкі прыбіраў у кватэры.

На рабоце дзень цягнуўся доўга: душу вярэдзілі думкі, дзе ўзяць грошай на паліто і новыя боцікі для жонкі, бо не за гарамі зіма.

Вяртаючыся дадому, зайшоў у краму і прастаяў у чэргах больш за гадзіну, выконваў жончын заказ на прадукты. Сама яна па вытворчай неабходнасці затрымліваецца на рабоце...

Вечарам вучыўся рабіць катлеты, затым мыў нашу бялізну і сваю кашулю. Лёг спаць позна, бо трэба было зрабіць курсавую работу: жонка вучыцца завочна на другім курсе...

**Даслаў Міхась КАВАЛЁЎ,**
*г. Рагачоў.*

**Віктар ЛОЎГАЧ**

## ВЫБАР НЯВЕСТЫ

*З натуры*

Калі Стасю Цыбулькіну споўнілася трыццаць гадоў, ён папярэдзіў бацькоў:

– Усё, жанюся. Вось скончу выбіраць нявесту і згуляем вяселле.

– Вельмі добра. Аднак нявесту выбраць – гэта не боты ў краме купіць. Тут патрэбна ўсё абмазгаваць. І каб не памыліцца ў выбары, і каб жонка надзейнай была, – адразу адгукнуўся Стасеў бацька.

Не ўтрымалася і маці:

– Даўно пара, сынку, сямейкай абзавесціся. Толькі якія зараз нявесты? Сорам адзін. Апранаюцца – проста жах, усё прасвечваецца. Ды і занадта фанабэрыстыя!

– А як вам аграномша Зінаіда Зайчанка? Прыгожая, статная, з вышэйшай адукацыяй. Чым не нявеста? – прапанаваў Стась.

– З прыгажосцю і адукацыяй супу не зварыш. Табе дбайная гаспадыня ў хаце патрэбна, – амаль у адзін голас адказалі бацькі.

– Тады настаўніца Вера Кірбай. Дзяўчына – ружа-кветка. Хоць на конкурс прыгажосці адпраўляй.

Маці толькі паківала галавой:

– Ты, сынку, што дзіцё малое. Слухай, што табе бацькі кажуць. Жонка павінна ў хаце на кухні быць, а не па конкурсах бегаць ды красавацца. Тут працавітая гаспадыня патрэбна. Каб глядзела і за гаспадаркай, і за табой.

– Прыглянулася мне і Клаўдзія Хацьян, – крыху падумаўшы, сказаў Стась. – Тэхнолаг малочнага завода. І зарплата ў яе высокая, і бацькі багатыя.

– І не думай! Дужа гарадская, з Мінска ж прыехала. Не прыжывецца яна тут, з'едзе, – адразу «забракаваў» дзяўчыну бацька.

І колькі потым Стась ні абмяркоўваў свой выбар нявесты з бацькамі, дастойнай кандыдатуры ўсё не знаходзілася...

Але сёння, у свае пяцьдзясят пяць, Станіслаў Сымонавіч Цыбулькін прывёў да бацькоў госцю.

– Знаёмцеся – жонка мая. Людміла Рыгораўна Качарыжкіна. Сам выбраў. Працавітая, як пчала, гатуе – пальчыкі абліжаш, на дыскатэкі не бегае, апранаецца сціпла. Адна вырасціла двух сыноў. І ўнукаў трое мае. Ну што, падабаецца? Выбіраў, як вы раілі.

Бацькі анямелі...

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*

**Лёля БАГДАНОВІЧ**

## ФЭЛЬКАВЫ ЧАРЫ

Анюта – вабная кабета.
Скажу, браткі, вам па сакрэце,
Што ў вёсцы не адзін хлапец
Яе павёў бы пад вянец.
Дзяўчына – прыгажуня, мара,
Ды Фэлька, пэўна, ведаў чары,
Бо птушкаю за ім ляцела...
Цяпер нібы ў галёшу села.
Не, гаспадар ён вельмі дбайны.
І круціцца, як той вятрак.
Але заўжды Анюта ў крайніх –
Мужчына ў сварцы чуе смак.
Кабету часам так зняважыць,
Абразіць проста нізашто.
Яна ж, як быццам, не заўважыць,
Пакліча ласкава за стол.

Жыве, не рушыцца сямейка,
Пакуль Анюта церпіць Фэльку.

*г. Барысаў.*







Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




### Розніца

Сын пытаецца ў бацькі:
– Якая розніца паміж нявестай і жонкай?
– Вялікая, – уздыхае той. – Нявесце ты купляеш толькі кветкі, а жонцы ўсю зарплату аддаеш.



### Напалохала

Маці павучае дачку:
– Асцерагайся, дачушка, хлопцаў, а то, крый бог, будзе...
– Ну, што там будзе? Ці дзяўчынка, як я ў цябе, ці хлопчык...



### Дапытаўся

Двое суседзяў на добрым падпітку.
Адзін пытае:
– А ты быў... з маёю?
Другі:
– А ты з маёю?
Першы:
– А я з тваёю, як ты са сваёю!..

**Даслала Вольга ЛАТЫШАВА,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Мацней кахай
дзяўчат і бабак –
І будзе з нервамі
парадак.

* * *

Мужчыны цвёрда памятаць павінны,
Што без дагляду сохнуць кветкі і... жанчыны.

* * *

Кахай хоць сем разоў, хоць тройчы,
А вось жаніся ты аднойчы.

* * *



Хто падмануў жанчын багата,
Сам будзе за грахі рагатым.

* * *

Каб болей мужчыны кахалі жанчын,
Злавацца ў красунь было б меней прычын.

**Даслала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

Для ўсіх

# ДЫЯЛОГІ І МАНАЛОГІ

### ДУХОЎНАЯ АСОБА

– Я не шукаю мужчыну з грашыма, я шукаю мужчыну, які б разумеў маю душу.

– А калі больш дакладна...

– Ну, абіраў бы бульбу, мыў падлогу і посуд, гатаваў есці...

### ХІТРАСЦЬ



– Дзяўчаты – надзвычай хітрыя асобы.

– Чаму?

– Калі выходзяць замуж, то важаць кілаграмаў пяцьдзясят: худым лягчэй пракрасціся ў кватэру мужа. А праз некаторы час становяцца ўдвая цяжэйшымі, каб іх складаней было адтуль выштурхнуць.

### ФЕНОМЕН

– Ніяк не магу зразумець гэты феномен!

– Які?

– Чаму пасля пятай чаркі гарэлкі мужчынам здаецца, што ўсе чакаюць іх званка?

### СЫНОК-МАЛАЙЧЫНКА

– Сынок, ты што на абед хочаш?

– Мне як тату!

– Пара табе ўжо і сваю думку мець...

– Ну, тады мне як табе, мамачка!

– Вось і малайчынка!

### І ПАКЛІКАЛА ДАРОГА...



Муж вяртаецца дадому ў тры гадзіны ночы і бачыць каля парога чамаданы.

– Хтосьці прыехаў, дарагая?

– Не, мілы, гэта ты з'язджаеш!

### КАЛІ ЖОНКА ГОЛАЯ...

– Ты калі будзеш дома?

– Нават не ведаю: цяпер еду ў гандлёвы цэнтр па жонку. Я аддаў усе грошы, бо ёй зусім не было чаго апрануць.

**Даслаў Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*




Малюнак Руслана БОГУША.

## Запіска для жонкі

*Міні-гумарэска*

«Даражэнькая! Памятаеш, як часта мы спявалі адзін аднаму песню, у якой ёсць такія словы: «Калі ты мяне разлюбіш – я адразу ж пампру...»? Дык вось, пасля таго, як ты дала мне прачуханца за тое, што ўчора набраўся, як свіння грязі, я зразумеў: ты мяне разлюбіла...

Калі прыдзеш дадому, а я яшчэ буду жывы, разбудзі мяне, калі ласка, і мы з табой зноў паспрабуем праспяваць нашу песню.

Твой Антосік.»

**Даслаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*

## Міхась МІРАНОВІЧ

# МІРАНІЗМЫ

### Жанчыну лёгка ўгаварыць

Вы мне паверце,
Спадары:
Жанчыну
Лёгка ўгаварыць
(Каторую б
Ні ўзялі з іх),
Што тая –
Лепшая за ўсіх.



### Нецікаўныя мужчыны

Хай наш брат
Гэта не забывае,
І другіх
Не шукае прычын:
Нецікавых жанчын
Не бывае –
Проста шмат
Нецікаўных мужчын.




### Не па зубах

Адзначым,
І не без прычын,
Заўважаны
Такі зігзаг:
Мы маем зуб
На тых жанчын,
Якія нам
Не па зубах.



*г. Віцебск.*





Малюнкі Алега ПАПОВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## ПРЫПЕЎКІ

Хай прыпеўкі пра любоў
Безупынку строчацца.
Не сакрэт: і ў сто гадоў
Цалавацца хочацца!

* * *

Я калісьці добра ўмела
Есці аж за чацвярых....
Дваццаць восем хлопцаў мела,
Але пагубляла ўсіх.

* * *

Як зірнеш на нашых хлопцаў,
Ажно вочы шырацца:
Іх пазнаеш па паходцы,
Бо штаны тапырацца!

* * *

Жаніхі за мною гужам,
Хлопцы ўсе, як на падбор.
Мае шчочкі, нібы ружы,
А сама – што памідор!

* * *

Без кахання прападзеш
І памрэш дзяўчынаю:
Альбо мохам зарасцеш,
Альбо павуцінаю.

* * *

На мае, брат, габарыты
Трэба дранікаў карыта.
Пасля дранікаў, між тым,
Цягне шчэ і на інтым!

**Праспявала Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

# Толькі для жанчын




*Ідэальны муж – гэта мужчына, які не здраджвае, не курыць, не п'е і... не існуе.*

Нарвежская прымаўка



Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.

**Уладзімір ЕРАМАЛАЕЎ**

## ЖАНОЧЫ РОЗДУМ

Няпроста у справе сямейнай,
Калі назаўжды выбіраеш.
Бо муж, як білет латарэйны:
Прайграеш – і зноў выбіраеш...




**Алесь КОЗЕЛ**




Што можа быць цяжэйшае за жаночую долю? Ды нічога! Нават у мяне, старонняга чалавека, які выпадкова падслухаў гэту размову дзвюх суседак, не было на гэты конт ніякіх ваганняў. Яны ўжо амаль гадзіну перамаўляліся праз плот, стоячы кожная на сваім агародзе. Праўда, старэйшая толькі і магла, што зрэдку ўставіць: «Ды гэта ж так». Затое маладзейшая – зухаватая кабета – лапатала за абедзвюх.

Трэба сказаць, што маладая жанчына была асобай славутай. Славутай у тым сэнсе, што ніколі не пачынала толькі адной работы, а бралася адразу за некалькі. Таму не магла скончыць як след ніводную з іх. Нават яе муж, чалавек цярплівы і пануры, часта бурчаў:

– Ну, зноў пачала падлогу мыць, гэта да вечара, – і потым злосна пляваўся.

– Гэта ж трэба ведаць, – раз-пораз паўтарала жанчына. Была ў яе такая прымаўка. – Ну проста звер! Я яго штурхаю, штурхаю ласкава. Уставай, каб цябе воўк! Хутка на працу ісці. Снедаць пара. А ён не варушыцца і толькі бубніць, маўляў, снеданне тое яшчэ не гатова. А потым, калі прачухаўся ды памыўся, крычыць: «Дзе ж твая страва? Яшчэ і ў печы не палена, а мне ўжо на працу час!» Бразнуў дзвярыма ды пасунуўся. І чаго ўз'еўся, людаед? Яешня – гэта ж...

Неўспадзеўкі з боку яе хаты данёсся бразгат посуду, енк дзіцяці, рохканне свінні і брэх сабакі. І ўжо бегма яна паспешна скончыла:

– Гэта ж пяць хвілін...




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




### 8 САКАВІКА

Падарункі ўсім дарылі,
А вось Кацю абдзялілі...
Джынсы ў гэтым вінаваты:
Яе зблыталі з Ігнатам.

### РАЎНАПРАЎЕ

Хоць бацькі назвалі Нінай,
Муж мой кліча «палавінай».
Мо таму, скажыце мне,
З ім працую нараўне?

**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*



**Аляксандр ВАШЧАНКА**




Я – за раўнапраўе. Але ж не да такой ступені! Жанчыны адабралі ў нас, мужчын, усё, што можна. Стрыгуцца пад хлопцаў. Гуляюць у футбол і хакей. Забіваюць цвікі ў сцяну. Кіруюць аўтамабілямі. Кураць... А што тычыцца адзення – проста жах! Жанчыны прысвоілі сабе галоўны аксесуар мужчынскага гардэробу – штаны, тым самым пазбавіўшы нас самых простых эстэтычных радасцяў.

Ножкі, ножкі... Колькі нашага брата звялі яны не ў той бок! Заўважыш дзяўчыну ў ажурных калготках – і ідзеш за ёй, нібы прывязаны, пакуль гэтае хараство не знікне за якімі-небудзь дзвярамі. Тады толькі і ўспомніш, што трэба на працу бегчы. Колькі я тады вымоў атрымаў за спазненне! Але ж затое заўсёды быў у добрай спартыўнай форме з бліскучымі вачыма. Паляўнічы!..

Мінуў час. І неяк зварухнулася нешта ў душы, захацелася ўспомніць маладосць. Выйшаў я вечарам на праспект. Гляну ў – і аж сэрца забалела. Наўкола адны штаны. Зрэдку, як бярозкі ў яловым лесе, засвецяцца ножкі і тут жа знікнуць у карагодзе джынсаў. А пад гэтымі джынсамі што разгледзіш?..

Але ўсё ж спакусіўся адной «Мантанай». Магнітам пацягнула мяне за ёй. Колькі ішоў – не памню, адкуль толькі спрыт браўся! Каля свайго пад'езда яна, напэўна, адчуўшы мой галодны позірк, азірнулася. Не можа быць: жанчына была недзе майго ўзросту!

– Навошта вы джынсы надзелі?! – ашаломлена спытаў я.

– А што, падабаецца? Зараз гэта вельмі модна! – адказала кабета, гулліва падміргнуўшы мне. – Можа, завітаеце да мяне на кубачак кавы? Я жанчына вольная...

– Не, прабачце, спяшаюся, – прамармытаў я і даў дзёру.

Яшчэ доўга потым не мог прыйсці ў сябе. Каб я, вопытны паляўнічы, ды так памыліўся! Зусім нюх згубіў...

Таму прашу вас ад імя ўсіх мужчын:

– Жанчыны, надзеньце спадніцы!

*г. Мінск.*




### Любоў за грошы

– Зінка, за што ты найбольш любіш свайго мужа?

– За грошы.

### Зманілі

– Таццяна, кажуць, што твой муж палюбоўніцу завёў? Маўляў, кахаецца з дачкой лесніка.

– Во манюкі! Гэта ж дачка дырэктара лясгаса.

### Рана радавацца

– Пазнаёмілася нядаўна з мужчынам. Штовечар водзіць у рэстараны. Я такая шчаслівая!

– А ты лепш схадзі з ім днём у ЗАГС і тады ўжо радуйся.

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




## НЕ БЯРЫ ЧУЖОГА!

Сонца свеціць угары,
Птушачкі спяваюць.
Вера з Юляй у двары
З цацкамі гуляюць.

Толькі раптам з цішыні
Крык і гвалт знянацку:
Не падзеляць у гульні
Дзве сяброўкі цацку.

Умяшалася матуля
(Сварка з-за нічога):
«Ты аддай сабачку Юлі,
Нельга браць чужога!»

Падрасла дзяўчынка Вера:
Лепш няма красуні!
І адбіла кавалера
У сяброўкі Юлі.

І адразу — пад вянец.
Толькі шчасця — дулю!
Ходзіць ціхенька хлапец
Да сяброўкі Юлі.

Да матулі Вера — ў роў,
Мокры твар, падлога...
Паўтарыла маці зноў:
«Нельга браць чужога!»



**Святлана БЫКАВА,**
*г. Заслаўе.*




— Мышэй даўно я не лаўлю, —
Аднойчы Кошка заявіла. —
Не модна гэта: лепш пасплю,
Не буду траціць свае сілы.
Я ўпадабала смачны корм,
Што мне прыносіць гаспадыня...
І тут, нібыта мора ў шторм,
Ускалыхнуўся род мышыны.
Баяцца ўжо няма чаго,
Па хаце бегаць ім бяспечна.
Пасталі Мышы ў карагод
І весяляцца каля печы.
Агледзеў нехта зерня мех:
Вось гэта свята! Пачастунак!
Пад дружны гоман, шум і смех
Цягнулі Мышы той ласунак.
І не стрывала Кошка: скок —
Лайдачыць стала недарэчы!
З тых дзён дала сабе зарок:
Выконваць справўна доўг кашэчы.

---

Раз корм з ахвотаю ясі,
То службу, будзь ласкаў, нясі!

**Ірына САСНА,**
*Жлобінскі раён,*
*в. Пірэвічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## КАРАЛЕЎСКІЯ ЗАПАТРАБАВАННІ

Падфарбую я бровы і вочы,
Каб пагляды мужчын заманіць,
Цёмным колерам летняе ночы,
Вусны — колерам спелых суніц.

Каралева! Не нейкая пешка.
І прыстойную маю казну:
Маладзік мне пазычыць усмешку,
А лілеі — сваю белізну.

І тады ўжо трымайся, мой дружа,
Бо такую ніхто не міне.
Без бутэлькі марціні і ружаў
Нават не падыходзь да мяне!




**Вольга ШПАКЕВІЧ,**
*г. Мінск.*

# *Вясёлым алоўкам*




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.





**– О, які зайздросны жаніх! З якога ён племені?**
**– Дык гэта ж турыст з Еўропы!..**

Малюнкі Аляксандра ЦІХАНАВА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Міхася ШУЛЬГІ.




Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

ЗНАЁМЦЕСЯ: МАЛАДЫЯ!





# СТУДЭНТКІ, АПТЫМІСТКІ, ГУМАРЫСТКІ...

***Сёння «Вожык» вітае двух маладых і таленавітых маладых аўтараў: Ганну КІСЛУШЧАНКУ і Ксенію ПІЎНЕВУ. Дзяўчаты апынуліся побач на старонках часопіса невыпадкова: у іх шмат агульнага, але — і розная.***

***Агульнае. Ганна і Ксенія нарадзіліся ў Мінску, вучацца ў адной ВНУ — Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце імя М. Танка, па адной спецыяльнасці — «Беларуская мова і літаратура. Журналістыка» і нават у адной групе. А яшчэ выпускаюць разам з іншымі студэнтамі на факультэце беларускай і рускай філалогіі часопіс «MOVA», за-***

**Ганна КІСЛУШЧАНКА**

## 10 ПРЫЧЫН БЫЦЬ ХАМЯЧКОМ

Так хочацца часам уцячы ад суровай рэальнасці, трошкі памарыць пра бесклапотнае і лёгкае жыццё і ўявіць сябе, напрыклад... хамячком. Паверце, такое становішча дае шмат выгодаў!

1. Самае галоўнае: можна спаць столькі, колькі хочацца, хоць цэлымі суткамі! Аднак моцна не захапляйцеся: калі будзеце доўга заставацца ў нерухомым становішчы, гаспадар можа падумаць, што вы спусцілі дух...

2. Набіваць страўнік рознай смачнай ежай — вось што стане вашым галоўным заняткам. Пры гэтым можна зусім не клапаціцца пра лішнюю вагу: зараз сярод хамячкоў вельмі модна быць тлусценькімі і «ціскабельнымі».

3. Хамячкам, у адрозненне ад людзей, не трэба хадзіць на працу ці вучобу, і нават грошы ў іх разуменні — усяго толькі паперкі для ўцяплення хаткі. І яшчэ адзін вялікі плюс: гэтым жывёлінкам гарантуецца пажыццёвы адпачынак, поўнае матэрыяльнае забеспячэнне і пакет сацыяльных паслуг.

4. Ніводнаму хамячку ў свеце не трэба прыбірацца ў сваім жыллі. Пра чысціню клапоціцца яго гаспадар (калі, вядома, ён не мае праблем з нюхам).

5. Вы не будзеце траціць шмат часу на водныя працэдуры: забруджаны хамячок можа лёгка і хутка пачысціць сваю шэрстку, не наведваючы душ або лазню.

6. Таксама хамячкоў зусім не турбуе выбар адзення і абутку. Далучыўшыся да іх племені, вы атрымаеце прыгожае натуральнае футэрка на ўсё далейшае жыццё. Ваш шыкоўны ўбор будзе выклікаць захапленне не толькі ў людзей («Вуці-пуці які!»), але і ў прыгожых хамячых («Які прывабны і пушысты мужчына!») ці абаяльных хамякоў («Якая шыкоўная пампушка!»).

7. Кватэрнае пытанне для хамячкоў зусім не актуальнае. Можна забыць пра квадратныя метры, крэдыты і рамонт — для пражывання вам заўсёды хопіць звычайнага слоіка з-пад варэння ці агуркоў.

8. Усе грызуны спакойна ставяцца да свабодных адносін і грамадзянскіх шлюбаў. Гэта значыць, што вы зможаце стварыць некалькі сем’яў, а колькасць дзяцей будзе залежыць выключна ад запасу хамячковай энергіі. Але потым не здзіўляйцеся, калі выявіцца, што ваша дачка — гэта яшчэ і ваша цешча, а сын наогул нарадзіўся ад вашай бабулі (мабыць, менавіта па мадэлях хамячковага жыцця і здымаюцца ўсе лацінаамерыканскія серыялы).

9. Паколькі ў вас будзе шмат вольнага часу, вы зможаце патраціць яго на філасофскія разважанні. Кожны хамячок (які, вядома, сябе паважае) бегае штоночы ў калёсіку і думае пра сэнс свайго жыцця.

10. І, нарэшце, галоўны плюс такога пераўвасаблення: хамячок, як і іншыя жывёлы, не ведае, што калі-небудзь памрэ. Гэта дазваляе жыць сённяшнім днём і атрымліваць асалоду ад свайго існавання.

Вы яшчэ хочаце быць хамячком?..




Малюнак і афармленне Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

***хапляюцца літаратурай і, вядома, валодаюць пачуццём гумару.***

***Рознае. Ганна ў школе вучылася ў тэатральным класе, іграла на цымбалах, малявала плакаты і сценгазеты. Любіць жывёл, кветкі, вандроўкі, цікавіцца культурай Усходняй Азіі. Ксеніі вельмі падабаецца чытаць, слухаць музыку і… шмат чаго яшчэ. Як прызналася сама дзяўчына, дыяпазон яе інтарэсаў увесь час мяняецца: сёння гэта вышыванне крыжыкам, заўтра — японскія серыялы, а паслязаўтра — падарожжа ў якое-небудзь цікавае месца…***

***Словам, знаёмцеся з новымі вожыкаўскімі аўтарамі, іх гумарэскамі і малюнкамі ды — усміхайцеся!***

**Ксенія ПІЎНЕВА**



## ЭКСТРЭМАЛЬНА ЦІ ДЗЕДАЎСКІМ СПОСАБАМ?

Ведаеце, чаму я зайздрошчу дэльфінам, мурашам і людзям, якія хварэюць на хранічны калестыт*? Правільна: яны не спяць. Так-так, яны не марнуюць час на засынанні, прачынанні, лунатызм ці дрэнныя сны. Колькі ўсяго прыемнага і карыснага можна было б зрабіць за восем гадзін, якія мы праводзім у абдымках Марфея! Не спаць — мая нязбытная мара. А пакуль застаецца напружана прыдумляць, як хутка засынаць, як лёгка прадзіраць вочы і падымацца з ложка. Вось некаторыя способы, якія я выпрабоўвала асабіста.

Першы. У панядзелак вечарам я ўзяла на ўзбраенне метад, дзякуючы якому можна без праблем заснуць і днём: пачытаць нудную кнігу. Гэты прыём не пазбаўлены сэнсу: вядома, што калі слухаеш зацягнутую лекцыю, часам можна гучна стукнуцца лбом аб парту з-за раптоўнага соннага прыступу. Але, як высветлілася, спосаб дзейнічае толькі днём: ледзь не прачытала ўсю «Вайну і мір».




Другі. У аўторак раніцай я запланавала правесці мерапрыемства пад назвай «Ускоч і знайдзі»: з вечара паставіла на будзільнік надакучлівую папсовую песню і паклала «падымальны агрэгат» як мага далей ад ложка. Скажу вам дакладна — гэта працуе. Але як! Я ледзь з глузду не з'ехала, пакуль шукала будзільнік. Сэрца бухала ў грудзях ад спалоху, і я вырашыла так больш не рабіць, бо шкада сваіх нерваў, ну і вушэй.



Трэці. Увесь наступны дзень я, уздрыгваючы ад кожнага моцнага гуку, хадзіла і выдумляла новыя спосабы для моцнага сну. Але мне падказалі стары і надзейны метад: каб хутчэй заснуць, трэба выкінуць усе думкі з галавы. Якой я была наіўнай! Гэта самая складаная справа, якой мне даводзілася займацца. Калі запэўніваеш сябе: «Я ні пра што не думаю» — зараз жа ў галаве ўзнікаюць самыя розныя ідэі наконт таго, якія шкарпэткі заўтра надзець і ўвогуле: у чым сэнс жыцця? Нарэшце, амаль зняверыўшыся, я ўсё ж заснула.



Чацвёрты і пяты. Наступныя прапанаваныя мне кімсьці метады хуткага пад'ёму з ложка былі самымі дзіўнымі дзеяннямі, якія я калі-небудзь рабіла ў сваім жыцці. Дык вось: калі вы не хочаце адчуваць сябе няёмка і няўтульна нават у кампаніі самаго сябе, ніколі не чысціце язык лыжкай! Праўда, прачнулася я сапраўды хутка, хоць і ад абсурднасці свайго занятку.



А ўвечары мной быў апрабаваны спосаб «два ў адным», які, па ідэі, павінен дазваляць хутка засынаць і прачынацца. Бачыла яго неяк у кіно і назвала «шпіёнскім». Трэба легчы на спіну, выцягнуць ногі, заплюшчыць вочы і закацiць іх. Ну, што я вам скажу? Нагулялася ў шпіёна на сто працэнтаў: раніцай праспала і да таго ж паднялася з адчуваннем болю ў вачах. Напэўна, гэты спосаб падыходзіць толькі для прафесіяналаў...



На гэтым я вырашыла паставіць тлустую кропку ў сваім эксперыменце. Чаму ён цягнуўся толькі тры дні? Ды абрыдла ўсё, адны пакуты! Буду засынаць і прачынацца дзедаўскім спосабам: не есці пасля шасці, прымаць цёплую ванну, ставіць спакойную мелодыю на будзільнік і моцна стамляцца за ўвесь дзень.

*P. S.* Усё ж шкада, што я не магу быць дэльфінам...

*Абсалютная бяссонніца.






Малюнак Пятра КОЗІЧА.

# КАЛІ АЛКАГОЛЮ ДАЦЬ ВОЛЮ...

*«...Згодна з інфармацыяй Міністэрства аховы здароўя, на ўліку ў сувязі са злоўжываннем алкаголем знаходзіцца каля 270 тысяч чалавек, пры гэтым 180 тысяч маюць дыягназ «хранічны алкагалізм». Аднак многія эксперты лічаць, што і гэтая лічба далёка не поўная, а рэальная колькасць алкаголікаў дасягае 500 тысяч чалавек».*

*«Звязда», 17 кастрычніка 2013 года.*



Чарку лішнюю кульнуць –
Для Сямёна свята.
А як не адну нальюць –
Не чакай дахаты,
Бо не служаць яму ногі,
Так і збочваюць з дарогі.

Запрасіў аднойчы брат
На радзіны ўнука.
За нашчадка Сёма рад –
П'е сівуху кубкам.
Узяла Сямёна стома,
Завялі яго дадому...

Неяк раз Сямён дзіця
Выхапіў з пажару.
Атрымаў замест падзяк
Ён бутэлек пару.
Гляньце: спіць герой пад грушай,
Нават пальцам не варушыць.

А надоечы Сямён
Трапіў у бальніцу.
Скардзіўся, што колькі дзён
Ад хвароб не спіцца:
– Памяркуйце, людцы, самі:
У баку і пад грудзямі
Паліць, рэжа мяне боль...
Ой, нашкодзіў алкаголь!

**Лявон АНЦІПЕНКА**,
*г. Шклоў.*

## АНЕКДОТЫ

– Налі мне віскі.
– У дзевяць гадзін раніцы?!
– Ну, кінь туды мюслі!..



Група турыстаў у тайзе згубіла пятнаццаць літраў спірту. Два тыдні людзям давялося існаваць на ежы і вадзе.



– Табе якая гарэлка больш падабаецца?
– 0,7. Але і 0,5 таксама смачная.




Малюнак
Алега КАРПОВІЧА.




## ДАРАГІЯ КАЗКІ

***Гродна.*** Колькі разоў гаварылася: «Людзі! Будзьце пільнымі! Не трапляйце на кручок махінатараў! Добра праверце, каму і, галоўнае, за што вы аддаяце свае грошы». Але чалавек усё роўна працягвае верыць нейкім неверагодным казкам.

Так, 42-гадовую мясцовую жанчыну зацікавіла аб'ява ўкраінскай знахаркі, якая абяцала пазбавіць ад усіх хвароб родных і блізкіх. Прычым гэта «лекарка» завярала, што адлегласць не мае ніякага значэння: настолькі моцныя ў яе здольнасці. Таму жанчына, не доўга думаючы, перавяла за мяжу больш за пяцьсот долараў. Пасля гэтага знахарка (на самай справе за ёй «хаваўся» аферыст) перастала выходзіць на сувязь.

Зразумела, што здароўе родных не палепшылася. А вось фінансавы стан даверлівай кабеты — пагоршыўся... Вера ў казкі каштуе нятанна.




## ГРАБЛІ РАЗЛАДУ

***Смаргонскі раён.*** Атрымаць граблямі па лбе, наступіўшы на іх, — крыўдна, але пры гэтым набываеш немалы вопыт. А як рэагаваць, калі цябе б'е імі па галаве родны брат, ды яшчэ так моцна, што трэба звяртацца ў бальніцу?

На гэта пытанне давядзецца адказаць аднаму мужчыну, які атрымаў такі досвед. А ўсё з-за таго, што зрабіў заўвагу свайму малодшаму брату, калі той быў не ў настроі.

Спадзяёмся, што гэта сямейная сварка хутка забудзецца, браты паміранца і зажывуць у згодзе.

А граблі разладу будуць выкарыстоўвацца толькі ў сельскагаспадарчых мэтах.



## ЗМЫЦЬ НЕГАТЫЎ

***Бабруйск.*** Каб пазбавіцца ад негатыву, многія спецыялісты рэкамендуюць... памыцца. Маўляў, вада забірае ўсё дрэннае і надае сілы. Мабыць, 24-гадовы хлопец так кепска правёў час за чаркай з мясцовай жыхаркай, што, калі тая заснула, паспяшаўся хутчэй дамоў: змыўся. Заадно прыхапіў з сабой тэлевізійны прыёмнік з пультам, пяць пачак цыгарэт, восем кілаграмаў бульбы і... бутэльку шампуню.

Дакладна не вядома, ці атрымалася ў хлопца змыць негатыў, але цяпер яму пагражае да чатырох гадоў зняволення.




***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***

**Афарызм**

*Калі ты разгневаны, палічы да дзесяці, перш чым гаварыць; калі моцна разгневаны, палічы да ста.*

Томас Джэферсан
(амерыканскі палітычны дзеяч,
трэці прэзідэнт ЗША)




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.




Малюнак Алега ПАПОВА.




**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**




Бегемот гатуе каву.
Сыпле розную прыправу –
Салодкую, горкую,
З цыбуляй і моркваю.
Як напіўся кавы,
Жвавы стаў, рухавы.
Шпарка бегаў, нізка гнуўся.
У балоце апынуўся.
З галавой нырнуў у ціну.
Упрыгожыў цінай спіну.




Весяліцца воўк з нагоды:
Купіў боты-скараходы.
Бегаў ён хутчэй за вецер,
Не зважаў на дрэвы, вецце...
Галавою лясь у дуб!
Нос разбіў і выбіў зуб.

# Займальны родны алфавіт

*Нядаўна ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга Уладзіміра Мацвеенкі «Займальны родны алфавіт». Пісьменнік даўно піша для дзяцей, і творы яго заўсёды вылучаюцца арыгінальнасцю, займальным сюжэтам, цікавай «гульнёй» са словам. У новай кнізе праз вершы, загадкі і скорагаворкі юныя чытачы змогуць здзейсніць захапляючае падарожжа ў цудоўную краіну Алфавіт ад А да Я, дзе на кожнай «літарнай» станцыі іх чакае шмат незвычайных адкрыццяў. Перагорнем некаторыя яе старонкі.*

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## А

### АПАНАС І АНАНАС



**А**будзіўся **А**п**А**н**А**с:
– Д**А**й, б**А**буля, **А**н**А**н**А**с.
– А в**А**зьму яго я дзе?
Не р**А**сце ён н**А** гр**А**дзе!
Схрумст**А**й, морквіну, Пан**А**с,
Нібы з мёд**А**м морkв**А** ў н**А**с.
– Не х**А**чу я, я ж не з**А**й, –
Лепш **А**нтон**А**ўку мне д**А**й...

### Загадка

**А**рэшнік р**А**сце,
А што н**А** кусце
Дзецям т**А**к люб**А**,
Як тр**А**піць н**А** зубы?

(Арэх.)

### Скорагаворкі

Хто з в**А**с з**А**г**А**дку **А**дг**А**д**А**е,
Той **А**б**А**р**А**н**А**к **А**трым**А**е.

* * *

**А**нтось **А**трос **А**пошні **А**брыкос,
**А** п**А**сля **А**брыкос **А**лёне **А**днёс.

## М

### МАЎЧУНЫ




**М**іколку й **М**оціка, **М**іж на**М**і,
У садочку клічуць **М**аўчуна**М**і:
– Абы не **М**ы, абы не **М**ы –
Ад**М**оўчваюцца **М**аўчуны.

Адзін – **М**аўчыць, другі – **М**аўчыць.
Як навучыць іх гаварыць?

### Загадка



**М**ы засынае**М** да вясны,
**М**ы бачы**М** залатыя сны,
**М**ы ўвесну не **М**інё**М** калод,
**М**ы вель**М**і, вель**М**і любі**М** **М**ёд.

*(Мядзведзі.)*

### Скорагаворкі

Кіска: «**М**урка на пад**М**урку **М**уркае пра **М**урку».
Ліска: «**М**ожна не пра **М**урку? **М**уркай лепш пра курку».

* * *

Ля **М**лына **М**лынар, у **М**лыне **М**акар.
Ён са**М** без **М**лынароў **М**ех **М**укі на**М**алоў.

# Я

## ПРА ЯНІКА І ЯНКУ



**Я**нік бэзу тры галінкі
Ранкам рэзаў дл**Я** **Я**нінкі.
**Я**нік падышоў да ганка,
Дзе **Я**го спаткала **Я**нка:
– Ты нашто ў наш сад залез
Без дазволу рэзаць бэз?
Адказаў на гэта **Я**нка:
– На м**Я**не не злуйс**Я**, **Я**нка!
Зрэзаў толькі тры галінкі
**Я** дл**Я** хворае дз**Я**ўчынкі.
Будуць лепш **Я**ны за лекі,
Што прынеслі ёй з аптэкі.

### Загадка

**Я**к толькі лета настае,
Адкрываем крынкі свае:
**Я** – суніца, **Я** – чарніца,
**Я** – марошка, **Я** – брусніца.
З нас варэнне, з нас і квас.
Ведаеш, **Я**к клічуць нас?

*(Ягадкі.)*

### Скорагаворкі



**Я**каў – юнга, не матрос,
**Я**шчэ трошкі не дарос.
– **Я**каў, хутка тва**Я** вахта, –
Ранкам выйшла ў мора **Я**хта.

* * *

**Я**сіка ў **Я**сельki вёз на **Я**ліку Алік,
Алік на **Я**ліку вёз у **Я**сельki **Я**сіка.




Знаёмая спрабавала прывучыць сына спаць асобна. Заснуў з бацькамі, яна аднесла яго ў дзіцячы пакой. Хвілін праз пятнаццаць малы вяртаецца і зноў кладзецца да бацькоў у ложак. Маці зноў аднесла яго ў дзіцячы пакой. Малы зноў вярнуўся. Яна яго трэці раз нясе на «месца», а ён праз сон:
– Ну, і доўга мы так бегаць будзем?!





Узяла малодшую дачку да сябе на працу. Яна там хадзіла-хадзіла і зайшла ў кабінет дырэктара. Сяджу і чую, як яны там пра нешта размаўляюць, і малая ганарліва паведамляе:
– А мая мама яшчэ рохкаць умее!





Сын у заапарку цікавіцца ў бацькі:
– Тата, а калі з клеткі вырвецца тыгр і з'есць цябе, то на якім аўтобусе мне ехаць дадому?





Дачка пытаецца:
– Мама, а ў колькі гадзін я нарадзілася?
Адказваю ёй:
– У дванаццаць ночы.
Дачка спалохана:
– Ой, я цябе, напэўна, разбудзіла?!




## Народныя ўсмешкі

### Пакуль што

— Ты, кажуць, прыдбаў кватэру ў новым доме?
— Так.
— І шмат там недаробак?
— Пакуль што адна.
— Дык гэта ж цудоўна! І што гэта?
— Не магу адчыніць уваходныя дзверы.

### Не піла

— Тата, ну чаму ты думаеш, што калі я была на дні нараджэння, дык абавязкова выпіла?
— Дачушка, я мама...

### Розніца

Песіміст плача ў камізэльку, аптыміст — у дэкальтэ.

**Пачуў і запісаў**
**Мікола ГРЫНЬКО.**
*г. Глобінае на Палтаўшчыне.*

***Часопіс «Перац» (Украіна).***




Малюнак Анатоля ГАРМАЗЫ.



Малюнак Аляксандра БУЛАЯ.




Малюнак Руслана БОГУША.

**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 2 (1505), 2014 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.



**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, г. Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail: a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара — 288-24-62,***
***намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52,***
***бухгалтэрыі — 287-18-81,***
***факс — 284-84-61.***



Падпісана да друку 12.02.2014
Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,44. Тыраж 1746 экз.
Заказ 336.

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.

# Пра дарогу — з асцярогай...




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.






– Іванавіч, глядзі! Знайшлася твая машына!..

Малюнкі Аляксандра БУЛАЯ.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.



## Народ кажа...

### «Воўк кожны год ліняе, але нораву не мяняе»

Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

Добры смех саграvае тых, хто не забывае выпісаць «Вожык»...



**ПАДПІСКА НА І ПАЎГОДДЗЕ 2014 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 19400 руб.,
індэкс 01380, цана 15500 руб.,
індэкс 748442, цана 52700 руб.,
індэкс 01381, цана 41500 руб.

**Падпісацца можна ў любым паштовым аддзяленні і ў магазінах РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — праз банкаматы, інфакіёскі і банкі, а таксама з дапамогай электронных грошай.**

